# Яшчэ адна савецкая дывэрсія

Свайго часу ў «Бацькаўшчыне» паведамлялася пра навагу Савецкага ўраду заснаваць у Маскве так званы «Ўнівэрсытэт дружбы народаў». У сувязі з гэтым гаварылася таксама пра палітычнае значаньне гэтага ўнівэрсытэту для Масквы й пра ягоны палітычны характар наагул. Тут мы хочам закрануць пытаньне, хто будзе студыяваць у гэтым унівэрсытэце й у якім кірунку будуць узгадоўвацца ягоныя студэнты.

Унівэрсытэт дружбы народаў, у які будуць прыймацца толькі студэнты з краінаў Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі, ужо заснаваны й распачне сваю працу з 1960-61 навучальнага году. Ён заснаваны пры Савецкім камітэце салідарнасьці краін Азіі і Афрыкі, Саюзе савецкіх таварыстваў дружбы й культурнай сувязі з замежнымі краінамі й Усесаюзным цэнтральным свеце прафэсыянальных саюзаў. Унівэрсытэт мае наступныя факультэты: інжынерны, сельскагаспадарскі, мэдыцынскі, фізыка-матэматычных і прыродазнаўчых навук, гісторыка-філялягічны, эканомікі й права. Апрача гэтага, пры ўнівэрсытэце будзе працаваць падрыхтаваўчы факультэт, на які будуць прыймацца асобы, што ня маюць сярэдняй школы, а таксама асобы, якія ня ведаюць расейскай мовы. Навучаньне на гэтым факультэце будзе прадаўжацца ад аднаго да трох гадоў.

Навучаньне на ўнівэрсытэце будзе ажыцьцяўляцца на расейскай мове й сіламі савецкіх прафэсарскіх кадраў. Аднак Масква мае таксама выдаць унівэрсытэцкія падручнікі й на мовах яго студэнтаў ды запрасіць колькі прафэсараў з Афрыкі, Азіі й Лацінскай Амэрыкі. Рэктарам унівэрсытэту назначаны былы заступнік міністра вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі СССР прафэсар С. Румянцаў. У гэтым навучальным годзе прадбачваецца прыняць на ўнівэрсытэт каля 500 студэнтаў, каб потым давесьці агульную іх колькасьць да 4-5 тысяч чалавек. Ужо апублікаваныя «Правила приема в Университет дружбы народов на 1960 год» і гэтым самым аб'яўлены набор студэнтаў.

Пры паведамленьнях пра гэты савецкі намер зарганізаваць у Маскве Унівэрсытэт дружбы народаў Савецкі ўрад зазначаў, што мэтай унівэрсытэту зьяўляецца ня што іншае, як толькі «памагчы краінам Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі ў падрыхтоўцы сваіх нацыянальных кадраў — інжынераў, спэцыялістых сельскай гаспадаркі, мэдыкаў, настаўнікаў, эканамістых і др.». Структура ўнівэрсытэту таксама паказвае, што ён зьяўляецца ўсебаковай навучальнай установай, а ня толькі ідэялягічнага профілю. Таксама гаварылася, як, прыкладам, зазначаў Хрушчоў у Інданэзіі, што на ўнівэрсытэце могуць вучыцца, як тыя, хто будзе накіроўвацца ўрадавымі ворганамі дадзеных краінаў, так і тыя, хто прыбудзе асабіста.

Аднак, ці выглядае Ўнівэрсытэт дружбы народаў такой філянтрапічнай установай, як яго размалёўвае Масква?

Як мы маглі заўважыць, Унівэрсытэт дружбы народаў заснаваны пры выразна ўрадавых палітычных арганізацыях, якімі зьяўляюцца Савецкі камітэт салідарнасьці краін Азіі й Афрыкі й Саюз савецкіх таварыстваў дружбы й культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Такім чынам і ён сам зьяўляецца свайго роду ўстановай палітычнай ці прынамся ўваходзіць у сыстэму такіх савецкіх палітычных арганізацыяў, якімі ёсьць гэтыя вышэй названыя ці хоць-бы як Усясьветавы савет міру, Савецкі камітэт абароны міру, Усясьветавая фэдэрацыя дэмакратычнай моладзі, Міжнародны саюз студэнтаў і г. д. Таксама, хоць і выступае пад другім назовам і мае профіль усебаковай навучальнай установы, Унівэрсытэт дружбы народаў працягвае фактычна традыцыю аснованага ў Маскве ў 1921 годзе Камуністычнага ўнівэрсытэту працоўных Усходу, што быў разьвязаны за памятных часоў Яжова.

Ідучы па шляху свайго назначэньня, апошні ўнівэрсытэт без усякага маскаваньня выступаў пад сваім запраўдным назовам і адкрыта падрыхтоўваў савецкіх працаўнікоў для савецкіх сярэдняазіяцкіх і каўкаскіх рэспублік, а таксама савецкую камуністычную агентуру для краінаў замежнага Ўсходу. У сучасных умовах палітычнага разьвіцьця ў Азіі, Афрыцы й Лацінскай Амэрыцы, калі народы гэтых кантынэнтаў будуюць свае нацыянальныя дзяржавы, заснаваньне падобнага «камуністычнага» ўнівэрсытэту для студэнтаў гэтых народаў было-б вялікай палітычнай памылкай і простай абразай нацыянальнага гонару азіяцкіх, афрыканскіх і лацінаамэрыканскіх народаў. Таму Савецкі ўрад вырашыў узяць назоў новага ўнівэрсытэту з тэрміналёгіі свaей усходняй і лацінаамэрыканскай палітыкі ці так званай палітыкі «дружбы», палітыкі «падтрыманьня нацыянальна-буржуазнага вызвольнага руху». Ён таксама вырашаў заснаваць унівэрсытэт ня чыста ідэялягічнага ці камуністычнага профілю, але ўсебаковай навучальнай установы, каб гэтым самым прыцягнуць на ўнівэрсытэт пабольш студэнтаў з Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі. Аднак заданьні Ўнівэрсытэту дружбы народаў застаюцца тымі самымі, як і заданьні Камуністычнага ўнівэрсытэту працоўных Усходу, пра што гавораць наступныя фактары.

Папершае, савецкі ўрад адмовіў права нацыянальным урадам краінаў Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі прыймаць удзел у падборы студэнтаў для ўнівэрсытэту. Калі яшчэ гэта дапушчаў зь вядомых дыпляматычных прычынаў Хрушчоў у Інданэзіі, дык ужо ў успомненых «Правилах» прыняцьця на ўнівэрсытэт было зазначана выразна: «Заявы аб прыняцьці ад грамадзян краінаў Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі могуць падавацца непасярэдня ў унівэрсытэт або праз пасольствы й консуляты СССР у замежных краінах». Такім чынам, пры падборы студэнтаў для свайго Ўнівэрсытэту дружбы народаў Савецкі Саюз хоча абыйсьці нацыянальныя ўрады адпаведных краінаў, а гэта азначае, што ён не жадае тых студэнтаў, якія пасылаюцца нацыянальнымі ўрадамі.

Падругое, пры падборы студэнтаў на Ўнівэрсытэт дружбы народаў будзе практыкавацца вядомы савецкі мэтад сэлекцыі жадаючых, г. зн. на ўнівэрсытэт будзе прынятая толькі асобная катэгорыя із жадаючых і тая катэгорыя, якая палітычна будзе адказваць савецкай лініі. Выступаючы ў нацыянальным унівэрсытэце Інданэзіі й гаворачы пра Ўнівэрсытэт дружбы народаў, Хрушчоў тады даў зразумець наступнае: «у нас цяпер вучыцца многа студэнтаў з усіх краінаў сьвету. Аднак большасьць гэтых студэнтаў пасылаецца ўрадавымі ворганамі, і, вядома, гэтыя ворганы ня могуць задаволіць усіх просьбаў. Дзеля гэтага шматлікія талантлівыя маладыя людзі з асяродзьдзя малазабясьпечаных сем'яў пазбаўлены магчымасьці ажыцьцявіць сваё жаданьне вучыцца ў Савецкім Саюзе». Ведама, гэтым самым Хрушчоў хацеў быццам-бы сказаць, што ў унівэрсытэт дружбы народаў будуць прыймацца асобы, якія з тых ці іншых прычынаў ня могуць быць пасланыя вучыцца ў Савецкі Саюз нацыянальнымі ўрадамі адпаведных краінаў Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі, а галоўным чынам так званы ў савецкім разуменьні «пралетарскі элемэнт» і ў першую чаргу той, які сымпатызуе Савецкаму Саюзу.

Дзеля гэтага й зааргганізаваны пры ўнівэрсытэце прыгатаваўчы факультэт, каб сьцягнуць у Савецкі Саюз больш падобнага элемэнту. Гэта, між іншым, пацьвердзіў у сваім артыкуле адказны сакратар Савецкага камітэту салідарнасьці краінаў Азіі й Афрыкі А. Сафронаў, што быў апублікаваны ў «Правде» пад назовам «Ачаг ведаў і дружбы». Ён зазначаў: «Вялікае значэньне будзе мець і тое, што ўсе, хто ня мае адпаведнай падрыхтоўкі, могуць атрымаць яе на падрыхтоўчым факультэце на працягу ад аднаго да трох гадоў. Гэта дасьць магчымасьць устанавіць шырокі дэмакратычны кантынгент паступаючых, бачыць у ліку студэнтаў тых, хто ніколі ня змог-бы паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы капіталістычных краінаў».

У А. Сафронава мы можам таксама знайсьці поўны адказ на пытаньне, што жадае дасягнуць Унівэрсытэт дружбы народаў і ў якім кірунку будзе прахадзіць узгадаваньне ягоных студэнтаў. Ужо кранаючыся справы, чаму «пачэсны абавязак» быць заснавальнікам унівэрсытэту выпаў на Савецкі камітэт салідарнасьці краінаў Азіі й Афрыкі й Саюз савецкіх таварыстваў дружбы й культурнай сувязі з замежнымі краінамі, ён мусіў прызнацца, што гэта сталася таму, што «яны маюць самыя шырокія сувязі з рознымі **дэмакратычнымі** арганізацыі Азіі, Афрыкі й Лацінскай Амэрыкі ды карыстаюцца пашанай ўва ўсіх тых, хто змагаецца за свабоду і нацыянальную незалежнасьць». Такім чынам толькі гэтай заўвагай ужо вызначаецца палітычная лінія Унівэрсытэту дружбы народаў. Аднак А. Сафронаў адкрыта выказаў і наступнае: «М а с к в а, Савецкі Саюз сталі сымбалем міру й дружбы паміж народамі. Моладзь жадае бачыць свае землі вольнымі ад чужаземнага панаваньня, разбудоўваць эканоміку сваей краіны незалежнай ад любога чужаземнага капіталу, разьвіваць сваю культуру... Народы двух вялікіх кантынэнтаў бачаць і падтрымоўваюць высокародную пазыцыю Савецкага Саюзу, ягонага ўраду ў змаганьні за мір. Яны гавораць: Масква — гэта мір, гэта дружба».

Мы думаем, што апошняе цьверджаньне не патрабуе ніякіх камэнтараў. Унівэрсытэт-жа дружбы народаў, як і калісьці Камуністычны ўнівэрсытэт працоўных Усходу, жадае сьцягнуць у свае сьцены як мага больш савецкіх сымпатыкаў ды выхаваць з сваіх студэнтаў дастойных савецкіх агентаў і савецкую дывэрсію.

**П. Залужны**

# Рэлігійнае ажыўленьне ў СССР

У першым квартале сёлета ў Савецкім Саюзе былі праведзеныя чарговыя зьезды кампартыяў саюзных рэспублік, на якіх важнае месца занялі праблемы ідэялягічнага ўзгадаваньня ў сучасных умовах. Ува ўсіх дакладах першых сакратароў ЦК былі сьцьверджаны яго недахопы й таму абмяркоўваліся меры да напраўленьня іх.

Адным зь вельмі важных пытаньняў, што ўваходзяць у камплекс праблемы ідэялягічнага ўзгадаваньня, зьяўляецца фактар сталага ўзмацненьня рэлігійнае веры й праблемы змаганьня зь ёю. Якраз у гэтым пытаньні савецкае кіраўніцтва ўжо некалькі гадоў мае толькі няўдачы й знаходзіцца хутчэй у абароннай, чымся наступальнай пазыцыі.

Больш таго, на ўсіх зьездах кампартыяў саюзных рэспублік зьвернута ўвага на небясьпеку ўзмацненьня рэлігійнасьці, якая зьяўляецца аднэй з самых паважных перашкодаў на шляху дасягненьня перамогі камунізму ў савецкім грамадзтве.

У дакладзе першага сакратара ЦК КП Азэрбайджану Ахундава падчыркваецца адсутнасьць «штодзённага наступальнага змаганьня з рэлігійнымі забабонамі» і ў рэзалюцыі зьезду патрабуецца ўзмацненьня ўзгадаваньня няпрымірнасьці да рэлігіі («Бакинский рабочий», 17. і 19. 2. 1960).

Поўную бездапаможнасьць антырэлігійнай дзейнасьці ў Кіргізіі сьцьвярджае першы сакратар ЦК КП Кіргіскай ССР Раззакоў («Советская Киргизия», 26. 2. 1960). Там-жа канстатуецца актывізацыя сэктанцкай, значыць хрысьціянскай дзейнасьці. Гэта паказвае на тое, што актывізацыя рэлігійных настрояў у Кіргізіі йдзе ня толькі па лініі музульманства сярод мясцовага жыхарства, але й сярод прадстаўнікоў славянскіх нацыянальнасьцяў, што знаходзяцца на кіраўнічых пасадах у рэспубліцы ды ў васяродзьдзі «перадавой» моладзі, прысланай з эўрапэйскай часткі СССР на новабудоўлі.

Падобнае-ж палажэньне і ў Туркменістане. Другі сакратар ЦК КП Туркменіі Грышаенкаў сьцьвярджае: «...на жаль у рэспубліцы перажыткі мінулага, у тым ліку рэлігійныя, яшчэ не зьлікдаваныя. Карыстаючыся запушчанасьцяй атэістычнай работы, сэктанты, шарлатаны й прахадзімцы апошнімі гадамі ажывілі сваю дзейнасьць... Аб гэтым гаворыць той факт, што пад уплыў духоўнікаў і сэктантаў пападаюць навет камуністыя й камсамольцы» («Туркменская искра», 17. 2. 1960).

Першы сакратар ЦК КП Таджыкістану Ульджабаеў у сваім дакладзе на зьезьдзе падчыркнуў актывізацыю рэлігійных тэндэнцыяў, з абурэньнем абвінаваціў партыйныя арганізацыі ў тым, што ў рэспубліцы «...лекцыі на антырэлігійныя тэмы чытаюцца для тых, хто й без таго ня верыць у Бога, а веруючыя не ахопленыя» («Коммунист Таджикистана», 5. 2. 1960).

На зьезьдзе партыі ў Узбэкістане першы сакратар ЦК Рашыдаў патрабаваў ад нацыянальнай інтэлігенцыі й навуковых колаў рэспублікі «разьвіцьця навуковай атэістычнай думкі, а таксама, як і ягоныя іншыя сярэдняазіяцкія калегі, сьцьвярджаў бездапаможнасьць партыйных ворганаў у іхнай антырэлігійнай дзейнасьці.

На зьезьдзе кампартыі Казахстану першы сакратар ЦК Кунаеў адзначыў, што: «Сустракаюцца яшчэ перажыткі патрыярхальна-фэадальнага мінулага, пры чым некаторыя носьбіты іх выдаюць свае паступкі за народныя звычаі й традыцыі. Усё яшчэ моцныя сярод часткі жыхарства рэлігійныя перажыткі» («Казахстанская правда», 11. 3. 1960).

Бязьдзейнасьць антырэлігійнай прапаганды й значнае ўзмацненьне рэлігійнай дзейнасьці, у прыватнасьці сэктанцкай, сьцьвярджаў першы сакратар ЦК КП Грузіі Мжаванадзэ. «З усіх перажыткаў мінулага, — гаварыў ён, — адным із самых жывучых зьяўляюцца рэлігійныя перажыткі... Апошнімі гадамі рэлігійныя аб'яднаньні робяць спробы збольшыць рэлігійныя групы, узмоцніць свой уплыў на жыхарства» («Заря Востока», 26. 1. 1960).

Вельмі цікавым у гэтым пытаньні было выступленьне першага сакратара ЦК кампартыі Армэніі Таўмасяна. Ён патрабаваў ня толькі ўзмацненьня антырэлігійнай прапаганды, але й актыўных каральных мерапрыемстваў, накіраваных на спыненьне царкоўнай і сэктанцкай дзейнасьці («Коммунист», 11. 2. 1960).

Такое-ж патрабаваньне аднаўленьня перасьледу рэлігіі й сьвятароў выказаў і першы сакратар ЦК КП Малдавіі Сярдзюк («Советская Молдавия», 29. 1. 1960).

Ня лепш для савецкага кіраўніцтва прадстаўляюцца справы ў гэтым пытаньні і ў Прыбалтыцкіх саюзных рэспубліках... І так у Летуве першы сакратар ЦК КП Снечкус падчыркнуў, што варожыя элемэнты ў рэспубліцы выкарыстоўваюць «нацыяналістычныя й рэлігійныя забабоны ў змаганьні супраць нашай ідэялёгіі...» Ён сьцьвярджаў, што «імпэрыялістычная прапаганда звонку» садзейнічае «жывучасьці рэлігійных перажыткаў», і прызваў не забываць аб тым, што духавенства гібка «спалучае» прапаганду ідэялягічнага рэакцыйнага сьветапагляду з сучаснымі дасягненьнямі навукі, стараецца пашырыць міт аб магчымасьці сумясьціць дасягненьні сучаснай навукі з рэлігіяй. Ён патрабаваў ад партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх ворганаў «лічыць атэістычную прапаганду адным з галоўных заданьняў сваёй ідэялягічнай працы» («Советская Литва», 2. 2. 60).

Першы сакратар ЦК КП Латвіі Пэльшэ патрабаваў на зьезьдзе «больш энэргічна й больш мэтазгодна весьці ідэйнае змаганьне з рэлігіяй, узгадоўваць працоўных у духу ваяўнічага матар'я-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

*Ф. Кушаль* 2)

# БІТВА ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

Пасьля сьмерці вялікага князя Гэдыміна, ягоныя сыны Альгерд і Кейстут працягвалі змаганьне з крыжацкаю навалаю далей. Гэтак, у 1330 годзе вялікі містр Крыжацкага Ордэну Дытрых з Альдэнбургу капітуляваў перад Альгердам бяз бою, ня чуючыся досыць моцным, каб зь ім змагацца. У 1346 годзе містр крыжацкі Гэнрых Дэ-Сэмэр, атрымаўшы дапамогу ад каралёў Вугорскага й Чэскага, увайшоў у межы Вялікага Княства Літоўскага. Князі Альгерд і Кэйстут, ужыўшы вельмі ўдалы стратэгічны манэўр, нанесьлі Крыжаком гэткія вялікія страты, што крыжацкая армія даўжэйшы пасьля гэтага час ня была здольная да ніякае зачэпнае акцыі. Пасьлей, адылі, напады невялікіх крыжацкіх аддзелаў — «місыйных рэйзаў» на Літву — пачаліся ўзноў.

Змаганьне з гэтымі «рэйдамі» выпала на долю князя Кэйстута, валаданьні якога, а гэта — Жамойць, Горадзеншчына, Берасьцейшчына ды Падляшша — мяжаваліся беспасярэдна з валаданьнямі Крыжацкага Ордэну. Князь Альгерд быў у гэным часе заняты справамі Ўсходу — паходамі на Маскву й змаганьнем з Татарамі.

Пасьля сьмерці Альгерда, вялікім князем Літоўскім стаўся ягоны сын Ягайла. У 1386 годзе Ягайла ажаніўся з кандыдаткаю на польскі каралеўскі пасад Ядзьвігаю й выехаў у Кракаў, дзе заняў пасад польскага караля. У Вялікім Княстве Літоўскім пачалося змаганьне за пасад вялікага князя паміж сынамі Альгерда Сьвідрыгайлам і Ськіргайлам і сынам Кэйстута Вітаўтам. Пераможцам з гэтага змаганьня выйшаў урэшце рэштаў Вітаўт, які й заняў пасад Вялікага князя Літоўскага.

### Палітыка Вітаўта ў дачыненьні да Крыжакоў

Вялікі князь Вітаўт быў ня толькі выдатным ваеньнікам, але й вельмі здольным палітыкам ды дыпляматам. У часох, калі ён заняў Вялікалітоўскі княжы пасад, Вялікае Княства Літоўскае было вельмі паслабелае дзеля нясупынных войнаў з Крыжакамі ды нутраных закалотаў. Апрача гэтага, Вітаўт мусіў упарадкаваць усходнія межы свайго княства, што не магло быць дакананае бяз збройнага змаганьня за іх з Маскоўшчынай. Трэба было шукаць, хай часовага, паразуменьня з Крыжацкім Ордэнам, каб, забясьпечыўшы на нейкі час заходнія межы княства, мець вольныя рукі на ўсходзе. Дыпляматычныя захады Вітаўта сустрэлі прыхільны водгук у крыжацкага містра. 5-га кастрычніка 1398 году між крыжацкім містрам Канрадам фон Юнгенгенам і Вітаўтам адбылося спатканьне на невялічкім абтоку Салін на Нёмане. На спатканьне быў запрошаны й містр Лівонскі. Тутка, на Саліне, і быў зроблены «мір братэрства» паміж Вялікім Княствам Літоўскім з аднаго боку й Крыжацкім Ордэнам зь другога. Паводля гэтага міру, Вітаўт адступаў Крыжаком Жамойць. За гэты падарунак абодвы Ордэны забавязаліся ніколі больш не нападаць збройна на Вялікае Княства Літоўскае. Мір на Саліне быў вялікаю дыпляматычнаю перамогаю Крыжакоў, бо, паводля яго, адгэтуль усё ўзьбярэжжа Балтыцкага мора, пачынаючы ад Фінскае заток на поўначы, апынулася пад нямецкім валаданьнем, да чаго Крыжакі й імкнуліся ўвесь час.

### Войны Крыжакоў з Польшчаю

Крыжакі ваявалі ня толькі зь Вялікім Княствам Літоўскім, — яны ваявалі і з Польшчаю. Мэтаю іхнаю тутка было — пашырыць свае межы як найдалей на захад і паўдня, каб забясьпечыць Прусію ад польскага наезду ў выпадку вайны. Гэтак, яны занялі былі Памор'е, заселенае аж па Балтыцкае мора блізу вылучна польскім жыхарствам. З адыходам да Крыжакоў Памор'я Польшча пагадзіцца не магла й польскі кароль Казімер Вялікі пачаў вайну з Крыжацкім Ордэнам, каб Памор'е адабраць. Войнаў гэтых было колькі й вяліся яны із зьменнаю ўдачаю, у канчальным аднак выніку, Памор'е засталося крыжацкім. За часоў караля Ягайлы, Крыжакі захапілі былі Дабжанскую зямлю, перасоўваючы сваю паўдзённую мяжу блізу пад самы Плоцк, сталіцу Мазавецкага княства. Ягайла, адылі, наважыў, за прыкладам і парадай Вітаўта, гэтаксама зрабіць перапынак у змаганьні й запрапанаваў Крыжаком, за пасярэдніцтвам Вітаўта, замірэньне. У 1404 годзе ў месьце Рацёнжу адбыўся зьезд, на які прыбылі з аднаго боку вялікі князь Вітаўт і польскі кароль Ягайла, а з другога — крыжацкі містр Конрад фон Юнгенген. Яны падпісалі мір між Польшчаю й Крыжацкім Ордэнам, які пацьвярджаў адыход Жамойці да Крыжакоў, а Крыжакі аддавалі Польшчы захопленую ў яе Дабжанскую зямлю, аднак, за вялікі, як на тыя часы, выкуп, бо аж 40.000 злотых.

### Падрыхтова да Вялікае Вайны 1409—1411 год

Мір, падпісаны на абтоку Салін у 1398 годзе ды ў Рацёнжу ў 1404 годзе, і Вітаўт і Ягайла лічылі адно часовым перапынкам у іхным змаганьні з Крыжацкім Ордэнам. Супярэчнасьць інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы — і Крыжацкага Ордэну была нагэтулькі вялікая, што добрасуседзкае сужыцьцё між імі было на даўжэйшы час немагчымае. Гэтаксама думалі й Крыжакі і таму, падпісаўшы мір, усе заміраныя — і Вялікае Княства Літоўскае, і Польшча й Крыжацкі Ордэн пачалі паціху рыхтавацца да новае вайны. Адданая, паводля Салінскага замірэньня 1398 году, Крыжаком Жамойць не хацела пагадзіцца із сваім новым палажэньнем і, калі Крыжакі пачалі яе займаць, як сваю новую правінцыю, Жамойцы збройна супрацьставіліся ім. У 1399 годзе вялікі князь Вітаўт пайшоў у паход супраць Залатое Арды на раку Ворсклу. Крыжакі скарысталі з адсутнасьці Вітаўта і ўжылі дзеля зламаньня жамойцкага супраціву нязвычайна жорсткія мэтады, караючы Жамойцаў агнём і мячом. Аднак, ніякія кары не памаглі й крыжацкі містр зажадаў у 1400 годзе, каб Вітаўт дапамог яму апанаваць непакорлівых Жамойцаў. Ня будучы яшчэ гатовы да вайны з Крыжакамі, Вітаўт пайшоў у Жамойць із войскам і дапамог Ордэну яе ўціхамірыць. Аднак, той-жа Вітаўт паціху згадзіўся, каб у Жамойць патайком пераходзілі паўстанцы зь Віленшчыны й Горадзеншчыны і, пачынаючы ад 1401 году, супраціў крыжацкаму паняволеньню ўспыхнуў у Жамойці з новаю сілаю. Крыжакі не маглі ня ўцяміць, што Вітаўт гуляе зь імі ў падвойную гульню й крыжацкі містр пачаў пасылаць яму дыпляматычныя пратэсты. Вітаўт адказваў на пратэсты Крыжакоў гэтаксама дыпляматычнаю даро-

# Рэлігійнае ажыўленьне ў СССР

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

лізму» («Советская Латвия», 17. 2. 1960). І, урэшце, у Эстоніі першы сакратар ЦК КП Кэбін патрабаваў «працягваць пошукі новых, даходных формаў антырэлігійнай працы», стараючыся панізіць уплыў лютэранскай царквы на моладзь» («Советская Эстония», 17. 2. 1960).

На Украіне першы сакратар ЦК КП Падгорны таксама падчыркнуў слабасьць антырэлігійнай прапаганды ў рэспубліцы: «Асабліва жывучымі, — гаварыў ён, — зьяўляюцца рэлігійныя перажыткі. Для пераадоленьня іх зроблена нямала. Аднак у атэістычнай працы яшчэ шмат недахопаў. Адзін з асноўных недахопаў — адступнасьць мэтанакіраванасьці прапаганды» («Правда Украины», 17. 2. 1960).

Асабліва шматзначным было выступленьне першага сакратара ЦК Беларусі Мазурава. У сваім выступленьні ён ня толькі закідае кіраўнічым працаўніком антырэлігійнай прапаганды бездапаможнасьць і бязьдзейнасьць, але й закляймоўвае іх як дапамагатых узмацненьня рэлігійных тэндэнцыяў.

«Таксама важна не забывацца, — гаварыў Мазураў, — і аб атэістычным узгадаваньні працоўных. Партарганізацыі апошнімі гадамі аслабілі працу ў гэтым кірунку. Гэта выкарысталі служыцелі культаў. Яны актывізавалі сваю дзейнасьць. Некаторыя царкоўнікі настолькі абнаглелі, што сталі на шлях парушэньня савецкіх законаў. Ім патуралі нашыя ўпаўнаважаныя для культаў, якія, дарэчы сказаць, з кантралёраў за дзейнасьцяй царкоўнікаў ператварыліся мясцамі амаль што ў іхных дапамагатых» («Советская Белоруссия», 13. 2. 60).

Далей Мазураў сьцьвярджаў, што радыяперадачы вольнага сьвету актыўна ўплываюць на настроі савецкага жыхарства й стымулююць узьнікненьне духовага разьняволеньня.

Характэрна, што актывізацыя рэлігійнай дзейнасьці ў многіх нацыянальных рэспубліках тым ці іншым шляхам пераплятаецца з праяўленьнем нацыяналістычных тэндэнцыяў. І так, прыкладам, у рэспубліках Сярэдняй Азіі і ў Азэрбайджане актывізацыя ісляму, што зьяўляецца вынікам савецкай палітыкі заігрываньня з нэўтральнымі краінамі Азіі й Блізкага Ўсходу, абавязкава суправаждаецца актывізацыяй нацыяналістычных тэндэнцыяў. У дзьвёх славянскіх нацыянальных рэспубліках, на Украіне і ў Беларусі, рэстаўрацыя аўтакефальнай праваслаўнай царквы мае выразна выражаны нацыянальны адценак. І, урэшце, у Латвіі й Эстоніі у змаганьні супраць узмацненьня нацыяналістычных імкненьняў партыйнае кіраўніцтва змушана вясьці змаганьне з лютаранскай царквой.

Аднак рост рэлігійных перакананьняў і бязьдзейнасьць партыйнай антырэлігійнай прапаганды характэрны таксама й для РСФСР. У газэце «Литература и жизнь» (21. 2. 1960) такім чынам расказваецца аб дзейнасьці праваслаўнага духавенства ў Пермскай вобласьці:

«Сотні папоў выконваюць абрады па ўсёй вобласьці. Ні мароз, ні бездарожжа ня пужаюць айцоў божых у іхнай справе. Вось-бы такая руплівасьць пермскім прапагандыстым!... Ці не павучыцца-б атэістам у папоў?..»

Трэба адцеміць, што асаблівай актыўнасьцяй у СССР цяпер вырозьніваюцца рэлігійныя сэкты, дзейнасьць якіх іншы раз мае выразна антыкамуністычны характар. Яны пашыраюць напісаныя ад рукі ці на машынцы рэлігійныя звароты, папярэджаньні й навет невялікія духоўныя трактаты («Литература и жизнь», 21. 2. 1960).

Уплыў рэлігіі на савецкае маладое пакаленьне цяпер настолькі збольшыўся, што ў палітычнай прэсе пачалі зьяўляцца публікацыі, якія паказваюць на пагражальныя памеры гэтага зьявішча.

Падсумоўваючы ўсё вышэй сказанае, можна зрабіць выснаў аб амаль што поўнай бездапаможнасьці атэістычнай прапаганды. Відавочна гэтым тлумачыцца і зьняцьце з пасады Старшыні Савету ў справах Расейскай Праваслаўнай Царквы пры Савеце Міністраў СССР Карпава й назначэньне на ягонае месца працаўніка партыйнага апарату Кураедава («Известия», 21. 2. 1960).

8 месяцаў таму Усесаюзнае «Таварыства пашыраньня палітычных і навуковых ведаў» пачало выдаваць новы часапіс «Наука и религия», які павінен стацца асноўным дапаможнікам для вядзеньня антырэлігійнай прапаганды. Аднак аналіз зьместу выпушчаных нумароў поўнасьцяй раскрывае іх навуковую слабасьць.

Ня гледзячы на тое, што ў 1954 годзе была апублікавана пастанова ЦК КПСС, якая пацьвярджала права савецкіх грамадзян на свабоду сумленьня й веравызнаньня ды якая забараняла блюзьнерства ў антырэлігійнай прапагандзе, новы часапіс таварыства поўны недарэчнасьцяў і блюзьнерстваў самага нізкапробнага сорту.

Савецкае кіраўніцтва ня можа недаацэньваць эстэтычнага й духова-этычнага ўплыву царквы, што пашыраецца на маладое пакаленьне. Часапіс «Вопросы философии» (№ 9, 1959) піша: «Ня трэба недаацэньваць сілу эмацыянальнага ўзьдзеяньня храмавага мастацтва, споведзяў, багаслужбаў... Якраз сіла эмацыянальнага ўзьдзеяньня вядзе да таго, што іншы, навет малады чалавек, які йдзе спачатку ў царкву «з нуды», пасьля незаўважна для сябе становіцца ахвярай».

Імкнучыся хоць-бы часткава супрацьставіцца гэтаму ўплыву, савецкія тэарэтыкі й партыйна-камсамольскія арганізатары ліхаманкава прыдумваюць «красочную», новую «камуністычную абрадавасьць».

Трэба ўспомніць і яшчэ адзін новы мэтад, што ўжываецца апошнімі часамі ў атэістычнай прапагандзе. Гэта спроба дыскрэдытаваць той ці іншы рэлігійны кірунак абвінавачаньнем яго ў фашызьме-гітлерызьме, у супрацоўніцтве зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Гэты даволі дзіўны прыём узмацняецца ў вагульным пляне палітычнай кампаніі, накіраванай супраць Заходняе Нямеччыны. І так, у «Литературной газете» (5. 3. 1960) у патураньні «гітлерызму» ў мінулым абвінавачваюцца манастыры й манашкі, у часапісе «Наука и религия» (№ 4, 1959) у схільнасьці да нямецкага фашызму абвінавачваюцца сібірскія сэктанты, у газэце «Чырвоная зьмена» (14 красавіка 1960) Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква абвінавачваецца ў тым, што яна быццам толькі ў гады II сусьветнай вайны была штучна створана нямецкімі фашыстамі.

Зразумела, савецкае кіраўніцтва ня можа ня бачыць поўнай няўдачы падобнай прапаганды і ўсё больш настойліва зьвяртаецца з заклікамі й патрабаваньнямі да навучных установаў, акадэміяў і буйных вучоных стварыць паважныя навукова-філязафічныя працы на антырэлігійныя тэмы. Аднак такія працы не зьяўляюцца. Інтэлігенцыя, навет зарэгістраваная ў складзе Усесаюзнага Таварыства пашырэньня палітычных і навуковых ведаў, ня прыймае ўдзелу ў прапаганднай дзейнасьці й асабліва ў антырэлігійнай прапагандзе.

Як за апошні сяродак у змаганьні з царквой і сяньнымі сьвятарамі камуністычнае кіраўніцтва бярэцца за каральныя мерапрыемствы, выпрабаваныя ў сталінскія часы. Аднак пры сяньняшнім палажэньні ў савецкім грамадзтве й дзяржаве, у пэрыяд сталага ўзмацненьня духовага разьняволеньня народу, аднаўленьне палітыкі тэрору папярэдняга сталінскага тыпу ў дачыненьні рэлігіі, яе сьвятароў і веруючых наўрад ці зьяўляецца магчымым.

(«Аналіз бягучых падзеяў у СССР»)

# На шляху да „сусьветнае славы“

Дасюль было ведама, праўдзівей гаварылася, што расейская культура, філязафічная думка й навука, наагул расейская цывілізацыя й асабліва «ленінізм» зьяўляліся найвышэйшым культурным дасягненьнем людзтва, ягоным найвышэйшым прагрэсам, пупам сусьветнае цывілізацыі й гуманізму. Гэтая савецкая канстатацыя прымушала нерасейскія народы Савецкага Саюзу запазычаць і насьледваць усё «перадавое» расейскае, забываючы вартасьць свае культуры, а навет і свой нацыянальны гонар. Ня зьніжаючы высокае вартасьці расейскае культуры й навукі, што, між іншым, было дасягнута ў барбарскі спосаб пазбаўленьня ўмоваў для культурнага разьвіцьця другіх народаў, а навет часткова й мэтадам абкраданьня гэтых народаў, мы тут мусім запярэчыць савецкай канцэпцыі пра быццам-бы «перадавую» цывілізацыю расейскага народу. Зусім ня ўглыбляючыся ў пытаньне, зазначым толькі, што ня можа быць «перадавой» цывілізацыя таго народу, якая прапаведвае й выслаўляе насільле й тыранію, пазбаўляе народы й чалавека іхных прыродных правоў, ставіць у прыклад нізкасьць і падхалімства, практыкуе маральнае ці фізычнае народазабойства, прыпадносіць народам за ідалаў маральна разложаных людзей, паасобныя групоўкі й антыгуманную філязофію.

Мы не закранулі-б гэтае праблемы, каб не паявіўся ад нядаўняга часу другі расейскі «пуп сьвету» — «сусьветнага значаньня» й «калыска гуманізму» — расейская мова.

На балонках «Бацькаўшчыны» даволі часта парушалася й парушаецца пытаньне гэтае новае небясьпекі брутальнага насаджэньня расейскае мовы. Канстатавалася, што яшчэ ў 1956 годзе ў Ташкеньце склікалася спэцыяльная канфэрэнцыя мовавдаў і настаўнікаў усіх нацыянальных рэспублік з мэтай разгледжаньня праблемы лепшага выкладаньня расейскае мовы ў нацыянальных сярэдніх і вышэйшых школах. Тады была прынятая пастанова аб арганізацыі пры Акадэміі навук СССР спэцыяльнага Інстытуту расейскае мовы, які заняўся-б тэарэтычным распрацаваньнем выкладаньня, наагул тэарэтычным распрацаваньнем расейскае мовы й ейнае гісторыі. Падобная канфэрэнцыя, толькі абмежаваная да моваведаў і літаратураведаў, была таксама скліканая ў Маскве вясной 1959 году. На ей ужо разглядалася пытаньне распрацаваньня для ўсіх падсавецкіх народаў агульнае расейскае тэхнічнае й навукова-філязофічнае тэрміналёгіі ды іншыя пытаньні, зьвязаныя з гэтай моўнай русыфікацыяй нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Гэтым-жа часам у нацыянальных рэспубліках прыймаецца таксама ведамы «закон» «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём».

Як даведваліся нашыя чытачы з балонак «Бацькаўшчыны», гэты «закон» разглядаў таксама й пытаньне навучаньня расейскае й роднае мовы ў школах нацыянальных рэспублік. Пайменна, ён у «дэмакратычны» спосаб дазваляў самым вучням і іхным бацьком выбіраць тую ці іншую мову навучаньня, а таксама школу з той ці іншай мовай навучаньня. Не дазваляў ён толькі рэспубліканскім урадам заставацца пры ранейшым палажэньні абавязковага навучаньня роднае мовы ў школах тэй ці іншай рэспублікі ды забавязваў узмоцніць навучаньне расейскае мовы і ў школах з роднай мовай навучаньня. Як звычайна, падобны «дэмакратызм» вельмі шмат выхваляўся ў савецкім цэнтральным і рэспубліканскім друку, не зважаючы на тое, што галоўным заданьнем гэтага «закону» было й ёсьць выцясьненьне роднае мовы з школьнага й штодзённага ўжытку й замена яе расейскай мовай.

Пункт аб мове навучаньня ў школах нацыянальных рэспублік названага «закону» не прайшоў толькі ў Азэрбайджане й Латвіі. Што-ж сталася ў гэтым выпадку з тым так прапагаваным «савецкім дэмакратызмам»? Прыкладам, у канцы лістапада 1959 году ў Азэрбайджане была скліканая трэйцяя сэсія Вярхоўнага Савету, якая й пастанавіла ўнесьці «зьмены й дабаўкі» да адзінаццатага артыкулу «закону»: «Артыкул 11. Устанавіць, што навучаньне ў школах Азэрбайджанской ССР праводзіцца на роднай мове вучня. Бацьком даецца права вырашаць пытаньне, у школу зь якой мовай навучаньня пасылаць сваіх дзяцей. Навучаньне расейскай мовы ў школах з азэрбайджанскай мовай ці з другімі мовамі навучаньня, а таксама навучаньне азэрбайджанскай мовы ў школах з расейскай мовай ці зь іншымі мовамі навучаньня праводзіцца па жаданьню вучняў і іхных бацькоў... Ідучы насустрач пажаданьням працоўных, неабходна ўсемагчыма палепшыць навучаньне ў школах Азэрбайджанскай ССР расейскае мовы, якая зьяўляецца магутным сяродкам міжнацыянальных зносінаў, умацаваньня дружбы народаў СССР і сяродкам выхаваньня іх на багацьцях расейскай сьветавай культуры...»

Аднача́сна былі звольненыя: І. Д. Мустафаеў ад абавязкаў сябры Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету Азэрбайджанскай ССР; Г. М. Мустафаеў — ад абавязкаў сябры сталай камісіі Вярхоўнага Савету АзССР па асьвеце й культуры; А. С. Бабаеў — ад абавязкаў сябры камісіі заканадаўчых меркаваньняў Вярхоўнага Савету АзССР; І. К. Абдулаеў — ад абавязкаў старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету АзССР; Г. М. Джафарлі — ад абавязкаў старшыні Вярхоўнага Савету АзССР і г. д.

А на XXIVзьезьдзе КП Азэрбайджану ў лютым 1960 году першы сакратар ЦК КП Азэрбайджанскай ССР В. Ахундаў мусіў прызнацца: «Мы забавязаны зьберагаць як зрэнку вока і павялічваць славутыя інтэрнацыянальныя традыцыі Азэрбайджанскай партыйнай арганізацыі, штодзённа й мэтанакіравана праводзіць працу па выхаваньню працоўных у духу брацтва й непарушнай дружбы народаў. Гэта тым больш неабходна, што аднэй з найбольшых памылак былага кіраўніцтва ЦК КП Азэрбайджану, як зазначалася на IX пленуме, было паслабленьне ўвагі да пытаньняў інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных. Пленум праўдзіва зазначыў, што бюро ЦК КП Азэрбайджану ў вырашэньні пытаньня аб мове ня выявіў палітычнай сьпеласьці, рашуча ня спыніў праяваў нацыянальнай абмежаванасьці... Пасьля IX пленуму ЦК КП Азэбрайджану быў ажыцьцёўлены шэраг мерапрыемстваў па выпраўленьню названых вышэй памылак. Перадусім упарадкаваны пытаньні навучаньня моваў у школах... Улічваючы патрабаваньні насельніцтва, мы павялічылі прадоўжанасьць радыяперадачаў на расейскай і армянскай мовах. Значна павялічаны лік лекцыяў, дакладаў і гутарак пра дружбу народаў СССР, пра перамогу ленінскай нацыянальнай палітыкі...»

Вось як расправілася Масква за непаслухмянасьць свайму «дэмакратызму». Тое самае сталася таксама і ў Латвіі. Аднак спынімся на актуальных савецкіх канцэпцыях пра расейскую мову.

Узмоцненае прапагаваньне расейскае мовы, як мовы сусьветнага значаньня, мовы самага «перадавога вучэньня ў сьвеце» — расейскага ленінізму, як мовы «багатае расейскае культуры» й сяродка міжнацыянальных зносінаў падсавецкіх народаў пачалося яшчэ ў канцы 1958 году. З гэтага часу што раз часьцей расейская мова стала называцца «другой роднай мовай» усіх іншых падсавецкіх народаў. Аднак тут мы затрымаемся на артыкуле «Мова брацтва» азэрбайджанскага пісьменьніка Мірзы Ібрагімава, што зьявіўся ў друку пасьля таго, як у Азэрбайджане пабывала цэлая група спэцыяльных маскоўскіх прапагандыстых і быў зьменены «закон» аб навучаньні моваў у школах Азэрбайджанскай ССР.

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

гаю, імкнучыся цягнуць справу, каб выйграць на часе. У 1408 годзе Вітаўт падпісаў умову з Маскоўскім князем Васілём Першым, у якой той запаўняў Вітаўта ў нэўтральнасьці Масквы ў выпадку вайны Вялікага Княства Літоўскага з Крыжакамі. Гэткія-ж умовы Вітаўт падпісаў і з Наўгародзкай ды Пскоўскай рэспублікамі. У сьнежні 1408 году Вітаўт сустрэўся ў Наваградку з каралём Ягайлам і ўзгодніў зь ім далейшую тактыку ў дачыненьні да Крыжацкага Ордэну, вызначаючы магчымую будучую вайну з Крыжакамі на лета 1409 году. 31-га траўня 1409 году збройны супраціў Жамойцаў Ордэну гэтак памацнеў, што паўстанцы здабылі замак Мэмэль, узялі ў палон увесь ягоны гарнізон і, спадзяючыся патаёмнае дапамогі Вітаўта, сталіся, наагул, нязвычайна актыўнымі. У палове чырвеня Вітаўт прыслаў у Жамойць ваяводу Гумбольда Валімунтовіча, які абняў кіраўніцтва паўстаньнем і зусім адкрыта пачаў змаганьне з Крыжацкім Ордэнам.

На польска-крыжацкай мяжы, тымчасам, ня гледзячы на дамоўленасьць у Рацёнжу ў 1404 годзе, вайсковыя сутычкі ня спыняліся. Крыжацкія збройныя аддзелы падаўнейшаму пераходзілі мяжу й рабавалі ды палілі польскія вёскі. Пратэсты не памагалі. Вітаўт і Ягайла гарачкава рыхтаваліся да непазьбегнае вайны. Аднак, у польскай вышэйшай магнатэрыі ня было аднадумнасьці што да вайны з Крыжакамі. Некаторыя былі навет выразна супраць вайны з Крыжацкім Ордэнам. Была супраць гэтае вайны й каралева Ядзьвіга, а пасьля ейнае сьмерці — і другая Ягайлавая жонка — Ганна. Каб узгодніць пагляды, Ягайла вырашыў склікаць у Ленчыцы зьезд найвышэйшых прадстаўнікоў польскае шляхты. На зьезьдзе гэтым яму ўдалося пераканаць усіх, што вайна з Крыжацкім Ордэнам неабходная і, калі-б Крыжакі напалі на Вялікае Княства Літоўскае, Польшча павінна абвесьціць Ордэну вайну. Тут-жа было пастаноўлена, што трэба, аднак, спрабаваць заладзіць канфлікты мірнымі сяродкамі, пасылаючы да крыжацкага містра дэлегацыю на перамовы. Гэткая дэлегацыя ў складзе пяцёх чалавек пад старшынствам Гнезьненскага Арцыбіскупа Куроўскага была тут-жа, на зьезьдзе выбраная й 1-га жніўня 1409 году прыбыла да крыжацкага містра Ульрыха фон Юнгенгена, які заняў быў у міжчасе пасад вялікага містра па сваім памерлым браце Канрадзе. Выслухаўшы прыбылых, Ульрых фон Юнгенген, шмат не гаворачы, спытаўся: Якое становішча займае Польшча, калі ў Жамойць будуць пасланыя крыжацкія войскі дзеля спыненьня там нарэшце супраціву? Арцыбіскуп Куроўскі адказаў містру, што Польшча збройна займе тады Прусію. Ульрых фон Юнгенген падзякаваў Арцыбіскупу Куроўскаму за шчырасьць і гутарка была скончаная. 14-га жніўня 1409 году Ягайла атрымаў пісьмовае абвешчаньне вайны Польшчы, падпісанае містрам — і Вялікая Вайна пачалася.

### Прабег першае фазы вайны

Зараз-жа пасьля абвешчаньня вайны Польшчы, крыжацкая армія перайшла польскую мяжу ў трох месцах. Першая, найбольшая група, пад камандаю самога містра Ульрыха, ударыла ў кірунку Добжыня, здабываючы дарогаю ўсе замкі, з Дабжынскім улучна. Другая група была кіненая на Быдгошч, пустошачы край, здабываючы замкі, а нарэшце, — і Быгдошч. Трэйцяя група накіравалася на Велюнь і Драздэнка ў Пазнаншчыне. Гэткая моцная атака Крыжакоў на польскія землі была вялікай неспадзеўкай і для Ягайлы і для Вітаўта. Польшча яшчэ зусім ня была падрыхтаваная да вайны, Крыжацкі-ж Ордэн, як выявілася, быў дасканала падрыхтаваны да змаганьня і зь Ягайлам і зь Вітаўтам.

Давялося Ягайлу зноўку пасылаць да Ульрыха фон Юнгенгена Арцыбіскупа Куроўскага з прапановаю замірыцца. Сам-жа ён пачаў пасьпешна канцэнтраваць польскае войска ў мясцовасьці Вольбаж пад Пётрковам.

Неўзабаве польская армія пад камандаю самога Ягайлы выйшла з Вольбажу ў кірунку Быдгошчы й пасьля колькідзённага здабываньня, места было адабранае Крыжаком, пасьля чаго Ягайла выслаў моцныя аддзелы войска пад Сьвеце й Тухолю. Згаданыя Ягайлавыя ўдачы змусілі крыжацкага містра Ульрыха фон Юнгенгена зьмяніць тон перамоваў з Арцыбіскупам Куроўскім. Самперш — умовы містра былі гэткія: Палякі меліся даць Крыжацкаму Ордэну вольную руку ў Жамойці й не даваць аніякае вайсковае дапамогі Вялікаму Княству Літоўскаму ў выпадку ягонае вайны з Крыжакамі. Пасьля-ж здабыцьця польскім войскам Быдгошчы, умовы містра зьмяніліся: ён запрапанаваў аддаць справу вайсковага канфлікту між Ордэнам і Польшчаю на разьемны суд Чэскага караля Вацлава Люксэмбурскага, які быў Немцам, спадзяваючыся дзеля гэтага на ягоную прыхільнасьць у дачыненьні да Крыжакоў. Ягайла згадзіўся на гэткі суд і 8-га кастрычніка 1409 году між Польшчаю й Ордэнам было падпісанае замірэньне, важнае да 24-га чырвеня 1410 году. Умовай замірэньня было, каб войскі абедзьвух старонаў заставаліся на тым месцы, дзе яно іх засьпела. Стараньні разьемцы — караля Вацлава былі добра аплачаныя Крыжакамі, якія прыраклі заплаціць за іх каралю аж 40.000 флярэнаў. Пастановы разьемнага суду павінны былі быць паданыя да ведама Польшчы й Крыжацкаму Ордэну 9-га лютага 1410 году.

### Падрыхтова да другое фазы вайны

Падпісаўшы замірэньне, ані крыжацкі містр Ульрых фон Юнгенген, ані Ягайла ня верылі, каб разьемны суд Чэскага караля мог іх задаволіць. Наадварот, яны добра разумелі, што няма чаго спадзявацца даўжэйшага міру. Ня верыў у гэта й вялікі князь Вітаўт. Таму — усе тры галовы дзяржаваў выкарысталі час замірэньня дзеля правядзеньня вялікае дыпляматычнае акцыі ў Заходняй Эўропе. Крыжакі абвінавачвалі перад дзяржавамі захаду й Ягайлу й Вітаўта, закідаючы ім, быццам пры дапамозе паганаў, а гэта — Жамойцаў, што ня ўсе яшчэ былі ў тыя часы хрысьціянамі, і Татараў зь Вялікага Княства Літоўскага, яны маняцца зьнішчыць Крыжацкі Ордэн — «гэтую адзіную цьвярдыню хрысьціянскае культуры у ўсходняй Эўропе», падмацоўваючы свае абвінавачаньні, дзе мага, грашыма й каштоўнымі падарункамі. Паслы Вітаўта й Ягайлы, з свайго боку, абвінавачвалі перад Захадам Крыжакоў у тым, што яны, прыкрываючыся крыжам, займаюцца рабаўніцтвам і нішчэньнем хрысьціянскіх польскіх і літоўскіх земляў, спрычыняючыся да нясупынных і крывавых войнаў.

(Далей будзе)

